ПАСЛЯ БАЛЮ

# У ДОБРЫ ШЛЯХ, ВЫПУСКНІК!

Таццяна ЗАПЕКА, выпускніца СШ № 86.

*Адшумелі выпускныя балі, развіталіся вучні і настаўнікі, дарослыя і дзеці. І кожны настаўнік, у каторы раз глянуўшы на дарослых ужо юнакоў і дзяўчат, неаднойчы прамовіў са слязамі на вачах: «У добры шлях». А ў кожнага былога вучня ў сэрцы трывога: ці будзе той шлях лёгкім? І наогул, якім ён будзе?*

## А ШТО НАПЕРАДЗЕ?

**Пакінуўшы старую добрую школу, выпускнікі засталіся на раздарожжы. Многія ўжо вырашылі, па якой дарозе ісці, а многія (іх больш) не ўяўляюць яшчэ, як пачаць, сустрэўшыся са шматлікімі праблемамі. Якую прафесію выбраць, куды пайсці вучыцца ці працаваць, каб не апынуцца ў вялікай арміі беспрацоўных, якая расце з кожным днём? Аб гэтым гутарка з сённяшнімі выпускнікамі.**

Мая субяседніца — выпускніца НАТАША НАДАЛІНСКАЯ.

**— Я ведаю, ты паступаеш у Беларускую дзяржаўную політэхнічную акадэмію. Чаму менавіта туды?**

— Раней я хацела быць выхавацелькай у дзіцячым садку, але не ўпэўнена ў сваіх сілах і жаданні вывучаць прадметы гуманітарнага цыкла. Мне лепш даваліся фізіка-матэматычныя навукі.

**— Разумею. Але калі не паступіш?**

— О, вось гэта пытанне!.. Спачатку параюся з бацькамі, магчыма паспрабую пайсці ў тэхнікум ці пайду працаваць.

**— А калі не атрымаецца і тут?**

— У мяне атрымаецца.

**— Каб усім нам столькі аптымізму! Што ты думаеш аб тых, хто ўжо паступіў?**

— Ім пашанцавала, плюс іх веды, упэўненасць...

**— І самае галоўнае пытанне: ты выбірала прафесію сама, з дапамогай сяброў ці настаялі бацькі?**

— У гэтым выпадку настаялі бацькі.

**Можа гэта правільна, каб за нас усё вырашалі бацькі, але ці не час ужо паспрабаваць самастойнасці?**

ВАЛЯНЦІН ГОСЦЕЎ:

— Я паступаю ў Акадэмію кіравання на факультэт знешняй эканомікі. Выбраў такую прафесію таму, што гэта перспектыўна. У выбары дапамагалі бацькі, але толькі з маёй згоды.

**— Магчыма, ты хацеў займацца іншай справай?**

— Так, падумваў аб міжнародным праве або банкаўскай справе. Але туды цяжэй паступіць. А сюды, у Акадэмію, — галоўнае грошы.

**— Як ты лічыш, мы павінны рабіць выбар самі ці па загаду, з-пад палкі?**

— У кожнага чалавека ёсць схільнасці да чаго-небудзь пэўнага. Напрыклад, ён можа цудоўна арыентавацца ў матэматыцы, але любіць літаратуру. Яго сябры і бацькі, безумоўна, параяць пайсці ў матэматычную навуку. Але ён павінен улічыць супольнасць сваіх думак, меркаванні бацькоў і магчымасці, а потым вырашаць.

— А я буду працаваць у цэнтры прафесійнай адукацыі сакратаром-рэферэнтам усведамлення міжнароднай карэспандэнцыі, — далучаецца да нашай размовы ЗОЯ ЛУКАВЕЦ. — Назва трохі пужае, а таму лепш проста — сакратаркай.

**— Чым табе спадабалася гэтая прафесія?**

— Гэта адзінае месца, якое адпавядае маім магчымасцям і здольнасцям: тут трэба здаваць мінімум прадметаў.

**— Ты хацела мець другую прафесію?**

— Марыла стаць настаўніцай. Але зараз я проста не маю ілюзій наконт сваіх здольнасцей. Вырашыла ісці на сакратара месяц назад.

**— Што ты думаеш аб беспрацоўнай моладзі?**

— Шкада людзей. Дарэчы, я вельмі баюся трапіць у іх лік. Вельмі хвалюе пытанне аб тым, што рабіць, калі не паступлю.

**— А як можна дапамагчы сабе?**

— Біржа працы — апошняе, на што можна спадзявацца.

**Вось такія змрочныя меркаванні ў 17-гадовай дзяўчыны, але ці ў яе адной?**

— Мяне, напрыклад, адрознівае ад сяброў тое, што свой шлях я выбірала сама, нават насуперак бацькам, — гаворыць ТОНЯ РАДЗЮК. — Але тое, што я паступаю на журфак у БДУ — амаль здзейсненая мара, а не звычайнае для майго характару дзівацкае рашэнне. Я ведаю, што магу застацца беспрацоўнай, але справа таго заслугоўвае.

**— Што ты магла б параіць беспрацоўным?**

— Асноўнае — не трэба ўпадаць у адчай. Калі добра пашукаць, праца заўсёды знойдзецца, трэба толькі любіць працаваць.

ЛЮДА БЕЛАВУС:

— Я іду ў фінансава-эканамічны тэхнікум. Калі не атрымаецца, уладкуюся дзе-небудзь працаваць ці пайду на курсы ў інстытут.

**— Чаму выбрала гэты тэхнікум?**

— Мама прапанавала — мяне гэта зацікавіла. Але гэта было першым, што падвярнулася пад руку. Калі была б магчымасць азнаёміцца з іншымі спецыяльнасцямі, магчыма, вылучыла б нешта іншае.

**Відаць, многія юнакі і дзяўчаты сутыкнуліся з праблемай недахопу інфармацыі і выбралі нелюбімую справу. Так. Аднак і дзяржава, магчыма, згубіла многіх добрых спецыялістаў, якімі маглі б стаць сённяшнія выпускнікі.**

### ПАЗАШКОЛЬНЫЯ ПАРАДЫ НАСТАЎНІЦЫ ШКОЛЫ № 86 ІРЫНЫ МІХАЙЛАЎНЫ ЕРМАЛАЕВАЙ

**— Як вы лічыце, якая дапамога патрэбна зараз выпускнікам школы?**

— Па-першае, псіхалагічная. Для юнака ці дзяўчыны непаступленне — гэта стрэс. І настаўнікі-псіхолагі разам з бацькамі павінны звесці яго да мінімуму, дапамагчы ў патрэбны момант парадай і маральнай падтрымкай. Далей. У нас не хапае інфармацыі для моладзі аб гуртках, секцыях, курсах, дзе юнакі і дзяўчаты змаглі б займацца карыснай справай, а не сноўдацца па горадзе. Лічу, што трэба ствараць большую магчымасць для працы моладзі па спецыяльнасцях, якія потым дапамогуць у жыцці — аўтатэхнікі, масажысты, печнікі, кандытары... Дый наогул, дзеці пасля школы пакінуты на волю лёсу. І галоўнае — не даць ім змагацца ў адзіноце. Менавіта таму на першых курсах у ВНУ павінны існаваць куратары, якія абавязаны не дапусціць раз'яднання групы. Але абыякавасць выкладчыкаў да студэнтаў — сёння таксама вялікая праблема.

**— Хто і як дапамагае будучаму студэнту выбраць спецыяльнасць?**

— Пакуль што ў выбары прафесіі выпадковасць іграе галоўную ролю. Даўно трэба ў ВНУ зрабіць гібкую сістэму пераходу з аднаго курса на другі, таму што, вядома, з узростам змяняецца і ўяўленне аб спецыяльнасці. У гэтым выпадку разумна было б звярнуцца да вопыту замежных краін. У многіх ВНУ нараўне са стабільнай праграмай навучання існуе каля 180 курсаў. І галоўнае тут — шматварыянтнасць выбару, такая сістэма дазваляе чалавеку раскрыць свае здольнасці. Кожны чалавек можа хадзіць на любыя курсы, здаваць залікі, пісаць работы. Чаму б нам не павучыцца ў іх?

І яшчэ. У студэнтаў павінна быць магчымасць самастойна выбіраць выкладчыкаў, ад гэтага будзе больш карысці — лягчэй пойдзе праца навучання.

*Мы пагаварылі аб некаторых галоўных праблемах, з якімі абавязкова сутыкнуцца былыя вучні. Галоўнае, не разгубіцца напачатку самастойнага жыццёвага шляху. А таму, дарагія выпускнікі, набяромся рашучасці і цярпення, і — у добры шлях!*

РЭЗАНАНС

## ЗНАЁМЫЯ МЕЛОДЫІ?

З першага нумара выпісваю і чытаю газету «Добры вечар», якую цаню за цвёрдую дэмакратычную накіраванасць і прынцыповую пазіцыю ў нацыянальных пытаннях. Але нядаўна вымушаны быў усумніцца ў гэтых меркаваннях.

На першай паласе «Добрага вечара» за 30 чэрвеня ў вочы кінуўся матэрыял пад характэрнай назвай «Беларусам — беларускія назвы». Аўтар, што схаваўся пад шыфроўкай «Ул.інф.«ДВ», паведамляе пра рашэнне Мінгарвыканкама «перакласці на беларускую мову ўсе шыльды ўстаноў, арганізацый, прадпрыемстваў, фірмаў і іншыя інфармацыйныя надпісы ў горадзе».

Першая падсвядомая рэакцыя: малайцы, сталічныя ўлады! Добры прыклад даюць усёй рэспубліцы. І перад гасцямі сталіцы не будзе брыдка, бо тая моўная эклектыка, якая пануе на нашых вуліцах, мякка кажучы, у захапленне нікога не прыводзіць, а толькі выклікае сумненні ў суверэнітэце і належным культурным узроўні рэспублікі.

Але што гэта? Чытаю далей — і вачам не веру. Аказваецца, невядомы аўтар зусім іншай думкі пра гэтае доўгачаканае, надзённае і зусім законнае рашэнне гарадскіх уладаў. Ён, бачыце, вельмі перажывае за прыезджых, якія, на яго думку, расчаруюцца ў славутай беларускай памяркоўнасці, і, каб, крый Божа, гэтага не здарылася, прапануе «пачаць з двухмоўных шыльдаў».

Міжволі кінуў позірк на газетны загаловак: не, не «Вечерний Минск», не «Мы и время»... Дык чым жа растлумачыць з'яўленне на старонках «Добрага вечара» гэтай зайгранай мелодыі? Няўжо нам яшчэ не абрыдлі недарэчныя «Книги—кнігі», «Гастроном—гастраном», «Министерство—міністэрства»? І чаму толькі на дзвюх мовах, а не, скажам, на пяці або дзесяці, каб не пакрыўдзіць паляка, немца, японца? І ці клапоцяцца пра нашы інтарэсы тыя ж дэмакратычныя французы ці англічане? Урэшце, ці чуў таямнічы «Ул.інф.«ДВ» пра Закон «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь», які трэба выконваць?

Такія вось неўразумелыя пытанні. Цешу сябе думкай, што гэта не сведчанне змены пазіцыі газеты, а ўсяго толькі прыкрая недарэчнасць. А сталічным уладам скажу: так трымаць! На тое ж і сталіца суверэннай, незалежнай Рэспублікі Беларусь.

ЯЎГЕН САХУТА,
пакуль што яшчэ прыхільнік «Добрага вечара».

ГРАНИЦА

## «СТОЙ! КТО ИДЕТ?» И ЧТО ВЕЗЕТ?

На тридцать пять человек увеличился с 1 июля штат таможни «Западный Буг». Эти работники станут обслуживать новые посты, созданные на границе с Украиной. Помогать новичкам будут на первых порах прикомандированные из Бреста бригады.

Уже первые дни работы показали, что установление новых таможен необходимо. Во-первых, освобождены от несвойственных им функций работники милиции, которые раньше осуществляли таможенный надзор на границе, во-вторых, четко соблюдаются все пункты таможенных правил.

К зиме предстоит оборудовать стационарные помещения постов, сотрудники которых покаютятся в приспособленных вагончиках.

**НА СНИМКАХ: совместный таможенно-милицейский наряд в составе заместителя начальника таможни «Западный Буг» Валерия Переверзева (справа), работника милиции лейтенанта Сергея Чуля и молодого таможенника Эдуарда Бурштына (слева) проверяет груз транзитного автопутешественника из Каунаса; зорко наблюдает за всем происходящим на границе сотрудник милиции Андрей Кивачук. Ведь на посту порой приходится задерживать и «крутых» ребят, у которых зачастую имеется оружие.**

Фото Эдуарда КОБЯКА, БЕЛИНФОРМ.



РЕСПУБЛИКА

### «ПРОСПАЛИ» «СОНИ»

Так и не добрались до белокаменной столицы бывшего Союза двести телевизоров не нуждающейся в представлении фирмы «Сони».

Чешские водители, перевозившие груз из Голландии в Москву, имели несчастье оказаться в наших краях. Содержимое фургонов заполыхало в одну из ночей на дороге между Кобрином и Малоритой. Догадок по этому случаю много, но, как уверяют знающие люди, «красный петух» стал следствием доморощенного рэкета. Водители, к счастью, остались живы.

### ДРУЖАТ ДЕТИ ВСЕЙ ЗЕМЛИ

**В ближайшее время группа лидских детей отправится на трехдневный отдых в германский город Порта-Вестфалика. Больших языковых проблем у этих мальчишек и девчонок не возникает — они будут жить в семьях переселенцев из бывшего Союза, в которых также есть дети.**

**Ребята поедут по приглашению немецкой общественной организации «Помощь для Беларуси», руководители которой побывали недавно в Лиде.**

### МОЖЕТ, КРЫША ПОЕХАЛА...

Перерыв на неопределенный срок объявлен на выездном заседании Брестского областного суда, который рассматривает в Пинске дело по факту убийства осенью прошлого года гражданина Франции Жан-Клода Кьерри. На скамье подсудимых — пять человек (из них — две представительницы слабого пола). После недельного разбирательства суд признал необходимым провести психиатрическую экспертизу главного обвиняемого Виктора Талатая.

### «СОШЛИСЬ» НА... ПАРАДЕ

**Руководитель Докшицкой организации Партии коммунистов Беларуси Алексей Терентьевич Смирнов и Юрий Михайлович Строилов, глава местной Рады БНФ, — непримиримые идеологические противники. На протяжении года они выступали на митинге, в печати, по радио друг против друга, ведя жесткую борьбу. И каково же было удивление горожан, когда они увидели 3 июля на параде в честь освобождения Беларуси дружно шагающих, плечом к плечу, в одной шеренге. Хоть в один день года взгляды их полностью совпали...**

### Статья дохода

При таможенной проверке на КПП в Казнодеюшках Поставского района у двоих граждан Литвы конфисковано более 4,5 миллиона рублей. Все деньги, за исключением трех 10-тысячных купюр, переданы в государственную казну.

**По сообщениям РИД.**

ЭТО ИНТЕРЕСНО

## СТРЕСС — ЭТО АРОМАТ И ВКУС ЖИЗНИ?

Ольга ЯКУТИНА.

Разгар лета. Сезон отдыха, отпусков, приятного времяпрепровождения. А для кого-то — это период волнений и даже стрессов: ведь начинается горячка вступительных экзаменов в ВУЗы, техникумы, училища. Для большинства абитуриентов — это трудный шаг, огромная психическая нагрузка, выдержать которую могут не все. И порой даже талантливые люди «проваливаются», но не из-за отсутствия знаний, а из-за полного внутреннего дискомфорта. Кстати, подобное состояние переживают не только абитуриенты, часто и вполне взрослые люди, хорошо знающие свою работу, теряются в присутствии начальства, чувствуют, как что-то мешает им в таких ситуациях высказаться. Первопричиной этого ученый-психолог Ф.Зимбардо называет застенчивость или, если хотите, закомплексованность. В его книге, вышедшей в издательстве «Педагогика» в 1991 году, которая так и называется «Застенчивость», утверждается: 80% опрошенных отметили, что в некоторый период своей жизни они были застенчивы, 40% признались, что таковыми они являются и в настоящее время, а это 4 человека из 10. Причем степень застенчивости различна у представителей разных культур, типов и в разных ситуациях. Так, в любой изученной стране глубоко застенчивых людей примерно 2%, а среди японцев — 10%. Но все же, как мы видим, это не мешает развитию нации, другое дело, если это касается отдельного человека. Ведь именно в таких стрессовых ситуациях, как экзамен, отчет и т.д., люди стараются забиться в свою раковину, выглядят съеженно и даже, увы, хорошие знания не всегда могут спасти дело. Большую роль играет и внешняя сторона ответа, разговора, просьбы. Вряд ли тихий сбивающийся, хотя и правильный ответ, удовлетворит даже самую непритязательную аудиторию. А иногда в стрессовой ситуации человек начинает вести себя грубо и вызывающе, что сразу оказывает негативное влияние на окружающих. Главное для таких людей, — обрести уверенность. Может им помогут имена тех, кто считал себя застенчивым, а это оказывается: принц Чарльз, Кэтрин Хепберн, Жаклин Онассис. Как видите, это качество не помешало им добиться многого в жизни.

А вот и практические советы психологов, которые предлагаются каждому:

Будьте максимально подготовлены к предстоящему событию.

Если это необходимо, потренируйтесь заранее.

Вообразите в деталях предстоящее событие. Но не сосредотачивайтесь на одном каком-то моменте, а попытайтесь мысленно обозреть его целиком.

Мысленно успокаивайте себя словами: «Я знаю, что могу это сделать. Я сделаю это хорошо. Я получу от этого удовольствие». Некоторым можно выбрать одно из этих упражнений, некоторым придется прибегнуть ко всем. Кстати, можно принять и валериановые капли или капли пустырника перед волнующим событием, т.к., вопреки распространенному мнению, эти лекарства не затормаживают мышление, если, конечно, принимать их правильно и не более 3-х раз в день. Ну, а если вам все же не повезло, вы не смогли добиться цели? Мне кажется, очень поможет внушение мысли о том, что все равно через какое-то время вы так или иначе сможете этого добиться. И тогда вы посмеетесь над сегодняшними неудачами. Не мучайте себя постоянными страхами о будущем, лучше сделайте все возможное сегодня. Ведь еще Иисус Христос сказал: «Не тревожьтесь о завтрашнем дне». Ну, а если страх, в вашем случае, — это неизвестность, то постарайтесь больше узнать о его причине, не бойтесь признаться в нем самим себе. И самое главное, не бойтесь стрессов, ведь говорили древние: «Стресс — это аромат и вкус жизни». И, возможно, именно он подстегнет ваши возможности и поможет добиться цели.

З ЖЫЦЦЯ ГРОШАЙ

## У ДАПАМОГУ ПАЧЫНАЮЧАМУ ФІНАНСІСТУ

Міхаіл ВАЛЬКОЎСКІ, «ДВ».

Грошы бываюць розныя: наяўныя і безнаяўныя, сваёй роднай краіны ці якой іншай (тады яны завуцца валютай). Але і валюта валюце розніца. Адна — звычайная грашовая адзінка якой-небудзь невялічкай краіны, другая — яе вялікасць СКВ. Гэтай самай свабодна канверсуемай у рэспубліцы хранічны дэфіцыт. У той жа час у асобных грамадзян рэспублікі маюцца сякія-такія запасы яе, прыхаваныя на ўсялякі выпадак. І вось, каб для роднай дзяржавы можна было нешта набыць за мяжой за гэту самую СКВ, шэрагу банкаў далі дазвол купляць яе ў насельніцтва. Як за наяўныя, так і за безнаяўныя рублі. Асабліва засяроджваю вашу ўвагу на гэтым моманце. Бо курс куплі па безнаяўнаму разліку недзе рублёў на пяцьсот вышэйшы, чым па наяўнаму. У гэтых акалічнасцях спрактыкаваны розум савецкага чалавека, прывыкшага ў любым законе знаходзіць слабае месца, адразу знайшоў шлях да абагачэння, хуткага і амаль беспраблемнага (бо адна праблема ёсць, але аб ёй ніжэй).

Значыць так. Калі ў вас няма трохсот ці пяцісот долараў, пазычце іх. Ідзіце з імі ў банк, які купляе валюту па безнаяўнаму разліку, і прадайце яму іх. Атрыманы чэк ці залічаныя на чэкавую кніжку грошы абнаяўце. Гэта — самы складаны пункт, тая самая праблема, што стрымлівае масавасць гэтай фінансавай аперацыі. Але, паколькі размова ідзе аб прыватнай асобе, вашы грошы можна абнаявіць у магазіне, рэстаране, словам, усюды, дзе дзённы абарот наяўных грошай значна перавышае суму рублёў, атрыманых вамі за долары. А працэнт за гэту паслугу значна ніжэй, чым пры абнаяўленні для арганізацый.

P.S. Можа, хто пазычыць долараў? Крутнуся, аддам з працэнтамі.

КАНФЕРЭНЦЫІ

## ГАНДАЛЬ ІХ АБ'ЯДНОЎВАЕ

6 ліпеня ў Мінску адбылася навукова-практычная канферэнцыя «Шляхі ўдасканалення гандлю на прадпрыемствах недзяржаўных форм уласнасці», ініцыятарам і галоўным арганізатарам якой выступіў Саюз прадпрымальнікаў Беларусі. У працы канферэнцыі прымалі ўдзел прадстаўнікі гандлю, дзяржмаёмасці, дзяржаўных і недзяржаўных суб'ектаў гаспадарання. Перад удзельнікамі выступіў першы намеснік Старшыні Савета Міністраў рэспублікі Міхаіл Мясніковіч.

Каментуючы вынікі канферэнцыі карэспандэнту БелаПАН, прадстаўнік Саюза прадпрымальнікаў сказаў, што дадзенае мерапрыемства ў чарговы раз паказала нежаданне ведамасных структур і, у прыватнасці, Міністэрства гандлю, выпускаць уладу з рук, імкненне захаваць за сабой манаполію. Зрэшты, па адным пункце чыноўнікі і прадпрымальнікі прыйшлі да адзінай думкі: неабходна надаць гандлю цывілізаваныя формы. І чым хутчэй, тым лепш...

Ірына ЛЕЎШЫНА, БЕЛАПАН.

МНЕНИЕ

## ВСЕ ПРОТИВ ВСЕХ, или КТО РЕШИТ ПРОБЛЕМУ СОБСТВЕННОСТИ?

Ирина ГЕРМАНОВИЧ.

Сколько раз нам приходилось слышать, что мы и наша страна уникальны. С этим трудно спорить, но не кажется ли вам, что наша уникальность есть не что иное как результат истребления человека как собственника, как созидателя?

Если экономика до такой степени как у нас зависит от политики, а также от людей, ее проводящих, — в этом нет здравого смысла. Мы топчемся на месте и, как в болоте, увязаем все больше, все глубже. Спор между тем, что мы называли социализмом, и тем, что у нас именуется рынком, продолжается. Что из них перетянет, окажется весомее, и сейчас вызывает сомнения. Притом, достаточно серьезные. Между тем как этот спор — спор за выживание.

Остановитесь, оглянитесь — и вы увидите: идет негласная, невидимая «война» всех против всех. Восьмой год мы пытаемся доказать друг другу элементарные вещи. А что изменилось? На смену периоду застоя пришел парад парадов: бумажные суверенитеты, декларации, обещания, увещевания. И все это с примесью амбиций, зачастую некомпетентности и пресловутым желанием проскочить «на авось». Может быть, это естественно для болезни роста будущих действительно независимых, действительно суверенных государств? Наверняка. И можно было бы перебиться, подождать, потерпеть, если бы...

На словах сегодня вроде и сдвиги есть. Называются цифры о количестве создаваемых негосударственных предприятий, о перспективах развития предпринимательства, о полутора—процентном наращивании промышленного производства. Говорят о целеустремленных и взвешенных действиях нашего правительства и парламента, о будущей многообещающей Конституции, о свободе, а по сути.... Что изменилось по сути? Или хотя бы намечается? Можно и разумно ли тешить себя надеждами на какие-либо перемены в стране, если «реформаторы» наши всю свою жизнь с трибун глаголили о победе социализма и о близком светлом завтра!? Так неужели кто-то искренне верит и надеется на то, что люди, привыкшие и познавшие незабываемый вкус командно-административной системы и власти, хотят и могут что-то изменить? Их словесные демократические обновления — не что иное, как стремление любыми путями закрепить старые структуры, специалистов, которых назначили в свое время партийные органы. Примеры? Их множество, они набили оскомину. И на местах власть как была, так и осталась у экс-коммунистических мэтров, для которых высший закон — «благо народа»!

Во «благо народа» мы перешли от всеобщей натурализации обмена к полнейшему хаосу. Во «благо народа» идет инфляционное финансирование экономики республики. Расцвет правового нигилизма, когда на один новый, разрешающий закон — десяток старых, всё запрещающих инструкций, — кому выгоден? Чего стоят наивные кабинетные представления о вероятном поведении наших директоров в условиях свободных цен! Первый и единственный импульс, вопреки учебникам экономики — вздуть цены в сотни раз и стоять на этом насмерть. Собственно, другого выхода у них пока и нет. Налоговая политика и множество разных причин закрывает все другие. Производитель ныне в самом тяжелом и, пожалуй, безвыходном положении.

Уже давно идет «дележ» госсобственности. Об этом говорят с трибуны Верховного Совета. Поговорят и разойдутся. А мы так и блуждаем в потемках, становясь злее и беднее с каждым днем. К сожалению, подавляющее большинство граждан высказывается за то, что ни правительство, ни парламент не могут и не стали гарантом социально-политической стабильности в обществе. Это общеизвестно, как и то, что человека можно защитить от социальных потрясений, только вручив ему часть собственности.

Считается, вдвойне дает тот, кто дает скоро. Нам, видимо, это не «грозит». Свободная воля свободных собственников — это сила, которая сметет все ненужное и мешающее двигаться вперед. Но и силы этой не будет, пока не решена проблема создания широкого слоя тех, кому есть что терять, слоя многочисленных собственников, которые будут опорой власти и реформ. Кто решит проблему собственности? Те, кто отказывает народу в праве высказаться на референдуме? Те, кто отсекает большинство народа от приватизации, лицемерно утверждая, что «именные чеки — обман населения»? Или те, кто кроме политэкономии социализма в сущности не хотят ничего знать? Не хотят, не могут и не дают другим. А поэтому не стоит ждать ничьих благодеяний. Сегодня можно надеяться только на себя. И разве что на Бога...

